


Алена КРАСОЎСКАЯ



# ДУМКІ БЕЗ НАЗВЫ

*...Что к концепции, ну, кроме*
*апперцепции,*
*И рифмы даже нету ни одной.*
*М.Шчарбакоў. "Ой, не троньте..."*

Дасягненьні *чалавецтва*. Праблемы *чалавечага* грамадства. *Чалавек* — Сусьвет...

Чалавек — паняцце сярэднестатычнае.

Ці *чалавек* ты, канкрэтны нехта, хто чытае цяпер гэтыя радкі? Хутчэй за ўсё — не, бо ты найперш мужчына альбо жанчына. І пакуль гэта так — ты не *чалавек*. Бо *чалавек* — істота бясполая. Існуюць праблемы *чалавека*, якія цяжка вырашыць мужчыну — патэнцыйнаму чалавеку з дадаткам-чэлясам, ці жанчыне — патэнцыйнаму чалавеку з незапоўненай дзіркай паміж ног.

Уся прага, усе нястомныя пошукі кахацьня — толькі закладзеная ў кожным надзея зрабіцца *чалавекам*, істотай, якая, акрамя іншага, задаволіла палавую патрэбу ў поўнае меры і таму ад гэтае патрэбы не залежыць.

Рэдка бываюць мудрымі маладыя...

Сёньняшняя цывілізацыя праслаўляе каханьне на фізычным узроўні. Духоўнае адзінства, якое на самой справе і ёсьць канчатковае вырашэньне палавай праблемы, у лепшым выпадку дэкляруецца.

Паэт, які займаецца духоўнай практыкай (а паэзія — духоўная практыка), найбольш адчувае незадаволенасць напалову вырашанай (нявырашанай) праблемай. Таму зьяўляюцца ў большасьці паэтаў няшчасныя жонкі зь дзецьмі, якіх "любяць" па абавязку, і чароўныя панны вершаў — недасягальныя ў рэаліях "ідэалы". Чароўную Панну можна выхаваць (дасканаласьць рэдка валіцца зь неба), але хто ж хоча займацца выхаваньнем?

Шкада паэтаў.

Канец эпохі — пераломны момант. Натуральныя сусьветныя законы забытыя ці падменыя штучнымі. Вартаўнікі толькі часткова стрымліваюць напаўзаньне хаосу, не маючы сілаў наладзіць парадак. Фактычна атрымліваецца, што іхняя мэта — пазьбегнуць непатрэбнай крыві і перадаць эстафету духу пакаленьню, якое павінна жыць пры новых законах. Тым, хто прызвычаўся да штучнасьці і аднаразовасьці, нялёгка прыйдзецца ў той час. Ім давядзецца ці мяняцца, ці паміраць.

Канец эпохі гадуе эгаізм — як адваротны бок адказнасьці. Незапатрабаваная здольнасць да адказнасці праз крыўду і адчай пераходзіць у патрабаваньне помсты і выпінаньне "я" — да сама-сябелюбства...

А яно — да няздольнасці стаць на месца іншага, значыцца — зразумець яго...

Фізычная патрэба ў каханьні — найбольш моцная пасьля неабходных для выжываньня (паветра-вада-ежа). Бяз гэтае патрэбы няма паўнавартаснага сапіенсу. Каханьне ж (нават фізычнае) вымагае паразуменьня. Як ні вычваралася, як ні намагалася грамадства, каб зьвесці каханьне да сексу, а секс абмежаваць інстытутам шлюбу, праз час і прастору засталося — няма каханьня без разуменьня. Тое, што адбываецца без духоўнае еднасьці, без абмежаваньня ўласнага эгаізму — не каханьне, асьвечаны афіцыйна гэты саюз ці не. Фізычнае ў чыстым выглядзе імкнецца да разбурэньня.

Матыў разбурэньня наогул выразна гучыць у канцы эпохі. Старая форма развальваецца, новая пакуль недасьпела, каб стаць законам. Эгаізм — занадта слабая зброя для абароны падчас сусьветнай катастрофы. Паверыць камусьці дзеля аб'яднаньня ў дзейную абарончую суполку фактычна немагчыма — зашмат вакол хлусьні. Нетрывалыя выпадковыя саюзы імгненна развальваюцца — хаўрусьнікаў раскідвае падазронасьць. Але рэдка хто здольны жыць у атмасферы нянавісьці і застацца псіхічна здаровым. Адзіна магчымае выйсьце — каханьне.

Якое ня ёсьць штодзённае сьвята.

Якое ёсьць штодзённая духоўная праца.

Іначай — пэўная колькасьць "фізікі" + агульныя матэр'яльныя праблемы.

Цяжка зразумець сябе.

Што тады казаць пра іншага, не такога, як ты?

"Фізіка" — сродак для першапачатку, калі ты вучышся су-існаваць не з сабой, з іншым.

"Фізіка" — магчымасьць калі-некалі адчуць падсьвядома тое, што табе незразумела на паверхні — сьвядомасьці.

"Фізіка" — стваральны *сродак*, разбуральная *мэта*.

З надыходам полавай сталасьці дзіцёнак робіцца не-дзіцёнкам, бо выключаецца родавая памяць — абарона несасьпелага арганізму. Ён пачынае шукаць каханьня — абароны ад адзіноты. Звычайна такога, якое бачыць вакол сябе...

...Раю "Бавуньці"...

... Падвальных "хароў"...

... Ціхае хатняе нянавісьці...

Сыпіс — бясконцы.

І да каханьня стваральнага дачыненьня ня мае...

Гледзячы на здымак, ты ня бачыш поту і дыеты мадэлькі, а выключна іх вынікі.

Атлетычныя мускулы чэмпіёна таксама зьявіліся не ад ужываньня цыгарэтаў, але ты бачыш вынік.

Рахунак у банку дзядзькі М. таксама толькі вынік.

Мы бачым вынікі. Мы жадаем вынікаў. Мы й ведаць ня хочам пра працу...

Каханьне — праца бясконцая. Але гэтая бясконцая праца дае магчымасьць стаць чалавекам. Яна прыцішвае мужчынскасьць альбо жаноцкасьць, прыводзіць ад палавіністасьці да цэласнасьці. Зараз можна будзе падумаць над Сусьветам не як мужчыне ці жанчыне, а як *чалавеку*. Ёсьць магчымасьць забыцца на свой пол — праз практыкаваньне некаторых духоўных сістэм, але гэта праца нашмат больш цяжкая, чым адмаўленьне ад эгаізму дзеля некага іншага. Каханьне — шлях агульнадаступны. І агульнанескарыстаны.

... Сапраўды зацікавіцца іншым — дадатковая магчымасьць разабрацца ў сабе больш аб'ектыўна. Аб'ектыўнае разуменьне сябе роўнае магчымасьці кіраваньня сабой, можа кіраваць навакольным сьветам, ставіць мэты і дасягаць іх. Узровень узьдзеяньня на акаляючую прастору роўны ўзроўню кіраваньня сабой.

Пакольці ты ня ведаеш сябе, табой кіруе навакольнае асяродзьдзе...

Кола, зь якога можна выйсьці толькі праз каханьне як штодзённую працу. Штодзённую ўвагу да не-сябе. Штогадзінныя разборкі з не-сабой, каб да сябе далучыцца праз люстэрка — іншага.

Каб кінуць разбураць.

Бо для су-існаваньня з хаосам патрабуюцца энергіі больш высокага ўзроўню — стваральныя.

Парадак — сродак выжываньня для слабых.

Ці верыш ты сам у тое, што ты — моцны? А калі верыш, то што дакажа мне, што гэта праўда?

Той, хто моцны — стварае парадак.

Усе, хто разбураюць — слабыя.

Любое стваральнае дзеяньне патрабуе працы.

**P.S.** Ці можа хто сказаць штосьці новае ў канцы эпохі?..





ЗНО

Проза

Адам ГЛОБУС



# ДАМАВІКАМЭРОН

*У 1994 годзе ў Беластоку ўласным (здаецца) коштам Адам Глобус выдрукаваў зборнік навел "Дамавікамэрон". Паліграфічна дыхтоўная, аздобленая адмысловай ПАРНАграфікай аўтара, гэтая кніга пакуль (наколькі я ведаю) не патрапіла ў поле ўвагі літаратурных крытыкаў і даследчыкаў літаратуры. Не думаю, што прычынай таму невялікі наклад і адсутнасць "Дамавікамэрона" на паліцах кнігарняў. Справа, бадай, у тым, што "гэта першая беларуская кніга, якую трэба хаваць ад дзяцей" (пераказваю Глобуса). Як ацэньваць, што пісаць пра кнігу, якую трэба хаваць ад дзяцей? Халера яго ведае! Спляжыць ушчэнт — рэтраградам палічаць, ухваліць — што суседзі падумаюць, прааналізаваць у кантэксце сучаснай эратычнай літаратуры — дык да такога не надта прывучаныя... Ды і ўвогуле... (Гэтае "ўвогуле" адслонім дужкамі, бо праблема няўвагі літаратурнай крытыкі да літаратара, якога добра ведаюць і актыўна чытаюць, — незалежна ад таго, як ставяцца да прачытанага, — паўстала не ў звязку з "Дамавікамэронам". Адам Глобус "сумнавядомымі" літаратурнымі акцыямі, якія крыўдзілі людзей, што можа менш другіх заслугоўвалі крыўды, — Шушкевіч, Брыль, іншыя, — сам затабуіраваў сябе для літаратурных крытыкаў, якія, на ўсялякі выпадак, лічаць за лепшае прамінаць яго ў эўфемічнай моўкнасці.)*

*Дарэчы, толькі што вышэй я згадаў "Дамавікамэрон" у звязку з "кантэкстам ... эратычнай літаратуры". Мушу павінавацiцца за паспешлівасць і непрадуманасць тэзы. Адам Глобус па прыродзе свайго пісьма не эратычны (жаночы, цёплы, акварэльны, дыялагічны, пасіўны...), а сексуальны (мужчынскі, халодны, графічны, маналагічны, агрэсіўны...) пісьменнік. У "Дамавікамэроне" гэта бачна найбольш выразна, і таму я хаваў бы "Дамавікамэрон" не толькі ад дзяцей, але і ад жанчын. Прынамсі, я не раіў бы ім браць у рукі гэтую паліграфічна дыхтоўную кнігу.*

*"Дамавікамэрон" — чытанка для мужчын.*

*Жанчына — істота эратычная, мужчына — сексуальная. Мужчына эратычны настолькі, наколькі эротыка дапамагае яму здзейсніцца сексуальна.*

*Магчыма, у гэтым гранічным падзеле я па-дылетанцку катэгарычны, бо шмат хто з сексапатолагаў сцвярджае, што большасць людзей патэнцыяльна бісексуальныя. Калі гэта насампраўдзе так, то большасць мужчын (прынамсі, патэнцыяльна) у нейкай меры эратычныя, а большасць жанчын — у нейкай меры сексуальныя. Але ж, думаю, не ў такой, каб з насалодай чытаць агрэсіўна сексуальныя навелы "Дамавікамэрона", амаль кожная з якіх кульмінацыйна арганізуецца сексуальным актам, нахабна вызваленым з-пад эратычнага покрыву таямнічасці (так вызваляецца з-пад кажуха рухавік на дэманстрацыйным стэндзе...)*

*Зрэшты, я тут не маю намеру аналізаваць пісьмо Адама Глобуса ці пісаць рэцэнзію на "Дамавікамэрон". Гэтая прадмоўка да публікацыі спатрэбілася мне, каб растлумачыць чытачу, што тыя чатыры навелы, якія ён неўзабаве прачытае, — працяг "Дамавікамэрона". У выдадзенай кніжцы іх налічвалася — 66 (містычна заангажаваныя, звярніце ўвагу на лічбу). Але з тае пары мінуўся нейкі час, і за гэты час калекцыя збіральніка брутальнага фальклору Адама Глобуса значна пабагацела. Сёння, напавер аўтару, яна налічвае ўжо больш за сто сюжэтаў. І аўтар мае намер дадаць новыя да старых і выдаць іх усе агулам у яшчэ адной кніжцы, зрабіць, так бы мовіць, "Вялікі Дамавікамэрон" (гэта не Глобус, а я, да слова, назваў яе так).*

*Наастачу дадам, што паколькі грамадская газета — гэта не кніжка, якую можна схаваць ад дзяцей і жанчын, то для публікацыі былі адабраныя самыя цнатлівыя з яшчэ ненадрукаваных навел. Пасля таго як вы прачытаеце гэтыя самыя цнатлівыя навелы, уявіце, засынаючы, чаго там панапісана ў тых, не-цнатлівых...*

**Валянцін АКУДОВІЧ**

## ДАМАВІК

Увечары, на Чысты чацьвер, жанчына пайшла ў царкву і на цьвінтары спаткала сваячніцу.

— Няўжо воўк у лесе здох? Ці можа вачам ня верыць? — нядобра пачала прывітаньне кучаравая сваячніца, — Што гэта ты ў сабор надумалася завітаць? Ці ня ведаеш, што прасталыткі толькі па сьвятах у храм наведваюцца? І нашто, скажы, губы ў чорны колер фарбаваць?

— Не табе, чапяла хударабая, мне дарогу ў царкву заступаць! — у троп адпрэчыла жанчына. — Адыдзіся, а не то мае сапраўдныя, а не накладныя, як у некаторых пазногці, пакінуць на тваім скулатым ілбе дзесяць пісягоў.

З адлегласьці размова выглядала вельмі добразычліва, не раўнуючы сьвятыя Марыя ды Лізавета.

У царкве панавала залатая ўрачыстасьць. Ядлаўцовы дымны дух нагадваў пра сыход, пра сьмерць і нараджэньне ўадначасьсе.

Жанчына падышла да абраза, на якім Лізавета сустракалася зь цяжарнай Божай Мацераю Марыяю, і зацапіла танклявую сьвечачку. Толькі жанчына не пакінула яе пад абразом, а, затульваючы далоняю ад скразьнякоў, панесла з храма.

— У-у-у... Вядзьмарка падкалодная! — засычэла злыязыкая сваячніца, пабачыўшы, як зносіцца з царквы кропля агеньчыку.

Жанчына не адказала на засьпінную абразу, адно плюнула на цьвінтар.

Праз трамвайныя рэйкі яна перайшла ў раён прыватных аднапавярховых дамкоў, дзе за дашчаным плотам хавалася і яе сядзіба: мураваны, белы, на высокім падмурку дом пад сіваватай дахоўкаю. Узышоўшы на ганак, яна неабачліва паставіла сьвечку на парэнчу, і тая ледзь-ледзь не згасла. Але жаночая далонь зноў затуліла дрогкі пялёстак агню, і ён, удзячны, асьвятліў змрачнаватыя сенцы.

Жанчына жыла адна. Пэўна, таму ўсё навокал мела крышку неўпарадкаваны, прывялы, недагледжаны выгляд.

Паставіўшы сьвечку на шырокую талерку, яна па драбінах узьнялася на гарышча.

Змрок, павута й пыл уладарылі пад кроквамі.

Кволы агеньчык слаба асьвятліў засыпаную сьвежым пілавіньнем падлогу, на якой ляжаў вялікі, доўгі, цалкам голы Дамавік. Жанчына паставіла талерку са сьвечкаю ў нагах аголенага й скінула праз галаву сьвяточную сукенку, каб ёю прыкрыць узбуджаную мужчынскую плоць.

— Я ўдзячны табе! — пракатаў Дамавік, калі сьветлая сукня накрыла магутныя сьцёгны. — Кажы найзапаветнае жаданьне, я — Дамавік — выканаю!

У жаночае галаве ўсё раптам парушылася, думкі затрапяталіся, як агеньчыкі на скразьняку...

"О, як доўга чакала. Як шмат хацела, намервалася прасіць, атрымаць, займець. Дзе жаданьні? Дзе думкі падзеліся, пазьнікалі? Цішыня. Здранцьвеньне. Пустэльнасьць. А жадалася ж мужчынскае ласкі, пяшчоты, моцы. Каб маё цела нарэшце раскрылася насустрач ягонаму памкненьню. Каб уся я ператварылася ў апёк, у рану. Каб рана закаліхавала вільгацьцю. Каб ён, залаты й вялікі, як найглыбей прайшоў у сярэдзіну, каб разарваў маю сутнасць напалам, а потым сабраў у новае адно, акрапіўшы паўбоскім насеньнем. Хацелася зноў пачуць той крык, выгукваючы які я згубіла цнатлівасьць".

Але замест усяго гэтага паўаголены Дамавік пачуў зусім другое.

— Знайдзі маю кучаравую, як авечка, сваячніцу, што сягоньня сычэла на цьвінтары, напалохай яе, згвалці, зьнявеч і забі!

Раптоўны подых сьцюдзёнае праймы загасіў сьвечку, зацепленую пад сьвятым абразом.

Напльла цемра, жудасьць і холад, але паўаголеная жанчына прасядзела на гарышчы цэлую ноч. Прад яе вачыма ніяк не зьнікала вялікае й чыстае дамавікова цела з узбуджанай плоцьцю.

У пятніцу, з самае раніцы выпадковы прахожы знайшоў на беразе Камсамольскага возера труп згвалчанай жанчыны. Твар нябожчыцы сказіў жахлівы перапалах.

## СПАДАРОЖНІЦА

Мужчына зайшоў у двухмеснае купэ.

За столікам, каля вакна, сядзела Спадарожніца.

— Добры вечар, шаноўная, — далікатна прывітаўся мужчына, але голасу Спадарожніцы не пачуў.

Яна засмужана, нібыта ў наркатычным траньсе, пазірала на асьветленую нэонам пэронную талакнечу.

Мужчына палічыў за лепшае сыйсьці ў тамбур і выпаліць узапар, але праз муштук, ажно тры цыгарэты.

Тым часам цягнік выехаў з гораду і ў лясной цемры набраў крэйсерскую хуткасьць.

Калі мужчына вярнуўся ў купэ, Спадарожніца знаходзілася ў тым жа безуважным стане і неадрыўна глядзела ў чорную шыбу.

Мужчына скінуў чаравікі й, бліскнуўшы белымі шкарпэткамі, ускочыў на верхнюю паліцу.

Спадарожніца дастала з валізкі папяровую сурвэтку й выцерла вішнёвую памаду з поўных вуснаў.



Мужчына паспрабаваў быў чытаць газэту "Свабода", але галаву запоўнілі гульлівыя думкі пра жанчыну. "Свабода" адклалася на сятчатую палічку.

Жанчына пачала акуратна адлепліваць доўгія накладныя веі.

Мужчынская кроў адлілася ад скроняў і прыцякла ў міжножжа.

Вагон пагойдваўся, колы памяркоўна грукаталі, цягнік працінаў цемру.

Мужчына стаіўся, напружыўся, напяўся.

Спадарожніца зьняла парык, сьцягнула праз галаву швэдар, адшпіліла пратэз правай рукі й паклала на столік.

Мужчынская кроў адцякла ад пахавіньня й прылілася да сэрца. Ціск павялічыўся. Мужчына цяжка ўздыхнуў шырока адкрытым ротам. Спадарожніца запусціла жывую руку пад шаўковы станік і побач з пратэзам легла плястыкавая, мутна-бялёсая, нібыта выплаўленая з густога мужчынскага насеньня, гладкая цыцка.

Мужчына ўшчыкнуў сябе за сьцягно, але муляж ня знік са століка.

Спадарожніца загаліла спадніцу і адлучыла ад нагі кавалак сцягна, калена, лытку й ступак у каштанавым чаравіку.

"Дзякуй Богу, што нагу на стол не паклала!" — падумаў мужчына.

Працэс распрананьня і разьбіраньня працягваўся: у адну складную шклянку леглі штучныя іклы, а ў другую апусьцілася блакітнае вока.

Нарэшце тое невялікае, што засталося ад Спадарожніцы, загарнулася ў прасьціну, сьцішылася й супакоілася.

Мужчына абмацаў сваё таемнае мейсца, дзе некалі паўставаў чэлес, і горача зашаптаў:

— У мяне выдатны бельгійскі вібратар, ён лепшы за сапраўдны ворган. Ніводная з маіх шматлікіх сяброўак не выказала нават цені незадаволенасьці. Мой вібратар можа ўпрыскваць цёплую саланаватую ваду...

Больш за гадзіну Мужчына спрабаваў бельгійскай рэччу спакусіць Спадарожніцу, але марна. Перад сном яна заўсёды выключала слыхавы апарат.

## ЛАЗОВІК

Маладая жанчына заляцела ў хату. Дрыжачымі рукамі прысунула засаўку, пазахінала фіранкі і, цяжка ўздыхнуўшы, гупнула на край канапы.

— Ты што робіш? — да канапы прыклэпала сьвякроў. — Ясны дзень на двары, а яна фіранкі ссоўвае дый на засаўку зачыняецца. Можа, ты розумам кранулася, дачушка мая?

— Каб Вы, мама, яго толькі пабачылі, дык ня тое што засаўку прысунулі, але залезьлі б у кубелец, накрыўкай закрыліся і спадніцу на галаву нацягнулі б.

— Дык хто ж гэта, дзіця маё, цябе напалохаў? Няўжо Юзік мой на цябе руку падняў?

— Вот Вы ўсё пра свайго дарагога сыночка Юзіка пагаварыць любіце. Ну хіба я мужыка свайго спужаюся да непрытомнасьці? Гаворыце абы-што, не падумаўшы.

— А хто, калі ня Юзік, на цябе сполаху нагнаў? Можа, зьвер драпежны ці зьмяючы клубок гадавак балотных?

— І ня зьвер, і ня гады гадзючыя, а нешта іншае, гідкае, вычварэнскае і ў чалавечым аблічы.

— Дык раскажы, і ўраз лягчэй стане, і да мяне спакой вернецца, — сьвякроў прысела каля нявесткі.

— Ну то слухайце... Сягоньня мы, зь Юзікам, вырашылі лазовых дубцоў нарэзаць, каб сад з боку рэчкі абгарадзіць. Яно, канешне, й ня вельмі трэба. Нашто плот, калі рэчка цячэ? Але Юзік казаў, калі пачалі ставіць, дык і варта ўсё чыста абгарадзіць. Ён гаспадар, ён галава, ён і вырашае. Лепей паслухацца, чымсьці пасварыцца.

З самае раніцы мы слупкі паўкопвалі. Бераг, пясок, слупкі лёгка паставіліся. Да слупкоў Юзік жэрдкі папрыбіваў. Я трымала, а ён цьвічком прыхопліваў, а потым за два-тры ўдары заганяў той цьвік па самую плешку. Да палудня слупкі стаялі.

А па абедзе Юзік пайшоў дубцы рэзаць, а я па кастрыцу паляцела. Нагрэбла цэлую пасьцілку, ледзь падняць. Прынесла. У гумне паклала.

Узяла вазок, каб дубцы лазовыя прывезьці, і качу сабе па асфальце. Вы ж ведаеце, мама, як лёгенька ісьці, калі клунак з кастрыцаю з плячэй скінеш. Крочу сабе й думаю пра зусім іншае. Качу сабе вазок...

— А пра што думала? — сьвякроў ушчыльную прысунулася да нявесткі.

— А Вам ня ўсё роўна. Думала і думала. Не пра вазок і не пра кастрыцу.

— А пра што? — старая жанчына глыбока зазірнула ў вочы нявесткі.

— Пра дзіця думала. Трэба нам зь Юзікам дзіця завесьці. Зрабіць маленькую Юзэфку ці Юзічка. Пра дзіцятка думалася. І пра тое, як мы яго будзем рабіць у лазовых кустах, у зялёных зарасьцях.

— Вам толькі пра брыдкае ды маладое думаецца, — сьвякроў адсунулася ад нявесткі.

— А нашто думаць пра старое, гнілое і трухлявае? Я пра Вашых унукаў, дарэчы, клапачуся.

— Ну не крыўдуй, дачушка. Прабач. Расказвай.

— А Вы, мама, не перапыняйце. Думаеце, лёгка пачвару згадваць? У мяне дагэтуль нутро калоціцца.

— Ну цішэй-цішэй... Супакойся, — сьвякроў як магла пяшчотна паласьціла маладзіцу па галаве.

— Кола на камень наскочыла. Вазок здрыгануўся, ледзь не перакуліўся, ледзь з рук ня вырваўся і ў кювет не паляцеў. Але я ўтрымала. А думалася вось што... Была дарога гладзенькая, роўненькая, пустая. А тут камень ляжыць. Адкуль узяўся? Хто паклаў? Каму спатрэбілася дурноціцца? Азірнулася, нідзе нікога. Пуста. Ціха. Лёгкі ветрык у прыдарожнай лазе шапоча. Прыгледзелася да лазовых зарасцяў... І сьвят, сьвят, сьвят! Стаіць ён там у гушчары. Увесь белы-белы, як пух лебядзіны, у касьцюме шаўковым, пры капелюшы, на пінжаковым штрыфелі белая ружа сьвеціцца, а ў руцэ доўгі ў сем сажняў бізун. Выйшаў, бізуном пастрэльвае, вочкамі пабліскваe, на мяне зіркае, усьміхаецца й паціху пачынае порткі расшпільваць. Каб не бізун з пальчаткамі, ён бы хутка тое дастаў. А так, чорт ведае колькі я пасярод дарогі, зачараваная, прастаяла, пакуль ён ворган на сьвет выцягваў. Ну там і чэлес, я Вам скажу, як у быка, ня меншы. І як пачаў ён надзімацца, цямнець, паўставаць, напінацца. То я вочы заплюшчыла, вазок ў кювет штурхнула і ўцякаць. Страх такі, Вы і ўявіць ня зможаце, — нявестка пераявяла дух.

— Змагу. Думаеш, я Лазовіка ніколі ня бачыла? Ён бяскрыўдны. Паляскае бізуном, пазіркае бліскучымі вочкамі, патрасе крыху чэлесам, а потым порткі зашпіліць і прападзе. А ты ляціш нечага праз усю вёску. У хаце зачыняесься. А чаго? Невядома. Галоўнае цяперака, каб Юзік вазок знайшоў, — сьвякроў паклэпала да вакна й рассунула накрухмаленыя фіранкі.

## РОК-СЬПЯВАК

У Рок-сьпевака быў шаманскі барытон. Падобныя галасы зьяўляюцца раз у сто гадоў. Такія творцы пралятаюць над сьветам вогненнаю каметаю. Людзі спыняюцца, уздымаюць галовы, шэпчуць:

— Зірніце! Паглядзіце на дзіва!

А потым фью-ю-юць, і зоркі няма. Цішыня. Цемра. І ніхто ніколі не пабачыць нічога падобнага. Але тыя, хто бачыў агністы палёт, ня змогуць яго забыць.

Ноч стаяла сьпякотная. Стадыён, падрыхтаваны да выступленьня Рок-сьпевака, болей падыходзіў да правядзеньня палітычнага мітынгу анархістаў, чым для музычнага шоў.

Ніводзін з гуртоў, якія павінны былі разагрэць і разгайдаць публіку, не дайграў свае праграмы да канца. Пакрыўджаныя музыкі пакідалі сцэну пад сьвіст, скавытаньне і ўлюлюканьне разьюшанага натоўпу.

Народ шалеў у чаканьні куміра. Падлеткі, не хаваючыся, пілі алкаголь, палілі тытунь і анашу, а найбольш адвязаныя мастурбавалі й займаліся сексам з праставалосымі сяброўкамі. Натоўп перад сцэнаю сабраўся настолькі вялікі і агрэсіўны, што ахоўнікі і не спрабавалі наводзіць свае парадкі.

У Рок-сьпевака быў цёмны настрой. Раздражнялі і бянтэжылі жарты, якімі музыкі перакідваліся з ахоўнікамі. Рабілася млосна ад успамінаў пра сварбу зь сяброўкаю, якая адбылася за гадзіну да канцэрта. Дзяўчына схавала шпрыц з ампуламі какаіну. І ў дадатак ліпучая гарачыня. А ягоныя музыкі пілі колу й бестурботна радаваліся. Іх імпэт упаў толькі тады, калі першую кампазыцыю давялося пачынаць трэці раз. Публіка ж паставілася да правалу найлепшым чынам. Непрафесійнасьць, нязграбнасьць, нахабства куміра яшчэ болей узбудзілі фанатаў. Рок-сьпявак толькі напрыканцы другой песьні пачаў трапляць у танальнасьць. І чым далей сьпяваў, тым лепш гучаў боскі голас. Ён лунаў над галовамі юнакоў залатакрылым анёлам, і душы жывых чулі ягоны покліч.

Натоўп вар'яцеў і разьюшваўся. Нарэшце натоўп закіпеў, і пачаўся штурм сцэны. Душачыся, топчучы адзін аднаго, фанаты лезьлі да куміра. Ахоўнікі білі іх гумовымі дручкамі, лупілі кулакамі, мясілі каленьмі й папіхвалі чаравікамі. Аглушаныя, акрываўленыя, абражаныя ахвяры падалі назад у натоўп.

Немаведама чым бы скончылася бойка паміж фанатамі й ахоўнікамі, каб Рок-сьпявак не спыніў канцэрт.

— Хопіць! — пачуў аціхлы стадыён. — Вы прыйшлі не слухаць музыку. Разумею. Вы прыцягнуліся з усіх закуткаў сьмярдзючага горада, каб павесяліцца, пакайфаваць, папіць піва, пафачыцца. Якая музыка? Да д'ябла сьпевы! Галоўнае, паглядзець на дзівосы. Што мне рабіць? Я ў вас, вырадкі, пытаюся.

Стадыён маўчаў. Над галовамі лётаў чорны анёл злосьці.

— А што калі я вам, сляпым і глухім, пакажу фалас? Вы ж гэтага чакаеце! Гэтага? — Рок-сьпявак выцягнуў з нагавіцаў даўгаполую кашулю і пачаў танцаваць вакол мікрафоннай стойкі.

Ён то ўздымаў фалды кашулі, то апускаў іх.

— Вы бачылі? Бачылі? Вось ён, паглядзіце. Гэта найлепшы фалас у сьвеце. Паглядзіце на яго яшчэ раз.

Натоўп выбухнуў. Пачалася звалка. Музыкі, пахапаўшы інструменты, паўцякалі. Рок-сьпявак укленчыў і ашчаперыў галаву рукамі. Гумовы дручок начальніка стадыённае аховы апусьціўся на белую сьпіну Рок-сьпевака. Другі ўдар ён атрымаў чаравікам у скронь. Ні трэцяга, ні астатніх удараў ён не адчуў.

Вярнуўся да сьвядомасьці ён толькі пад раніцу. Ляжаў апрануты на ложку ў маленечкім пакойчыку сяброўкі.

— Нашто ты гэта зрабіў? — спыталася яна, убачыўшы, як ён накіроўваецца ў душ.

— Мне было цікава, што з гэтага атрымаецца. Звычайная цікавасьць!

Распрануўшыся, Рок-сьпявак прыўзьняў накрыўку скрыні для бруднай бялізны, каб кінуць туды запэцканую ў кроў кашулю. Там ён і знайшоў шпрыц з ампуламі. Рок-сьпявак зрабіў сабе ўкол і стаў пад лагодныя струмені. Падвоеная доза какаіну падаравала лёгкую, бестурботную, ціхую сьмерць.

Валянціна АКСАК

# ХВАЛАСЬПЕВЫ ЖЫЖАЛЮ



*каліва кноту*
*ўспарола ў пакоі*
*настылую цемру —*
*liberty life*
*у ценю яго*

* * *

*сьвечкі струмень*
*усьвядоміў сябе*
*фетанцыдам Сусьвету —*
*хто аспрэчыць яго?*

* * *

*цень цемры — сьвятло —*
*пакалыхвае морак самоты,*
*воску хвала,*
*што зьбярог для мяне*
*цудадзейным*
*цурок калыханкі*



* * *

*у Жыжаля табель пра рангі*
*інакшы:*
*там другаснай —*
*сутнасць,*
*а першасным —*
*цень*

* * *

*дровы любяць смалу*
*і смалу*
*ласьціць пекла,*
*на патэльні яе*
*мае ўдосталь для нас,*
*любасьвечных*

* * *

*добра гарыць*
*толькі тое дрэва,*
*якое высахла ўшчэнт —*
*душа не вязьне ў тлене зморaным*

* * *

*цяжка даўмецца,*
*чаму ў нашых хатах*
*стаўлялі вялізную печ з чаранёю,*
*а побач яшчэ —*
*і кафляны стаяк;*
*думаю, рабілі гэтак*
*дзеля раўнавагі*
*паміж гарызантальным целам*
*і вертыкальнай душою*

* * *

*дзень пачынаецца з печы —*
*аладкамі,скваркамі,*
*пульхнай яечняю,*
*з коптурам бульбай на ўсіх згаладалых,*
*калі абвуголены сон*
*агорне агменя;*
*дзень завяршаецца печчу —*
*з уторкнутым млява ў чалесьнікі*
*дроваў бярэмцам*
*і вераю ў заўтрашні дым,*
*які выцягне ў неба*
*тужлівую стужку дарогі*
*адпечдапарогавай*

* * *

*Вечарніцу выходзяць страчаць хіба тыя,*
*хто ў царстве Дзяньніцы*
*пачуўся ззалела,*
*мне горача*
*ад погляду начных нябёсаў,*
*кіпіць сукрыца*
*Венеру прывітаўшы*

* * *

*а потым —*
*вогнішча,*
*спакусавынішчальны сродак,*
*нішчымнай мроі —*
*паскамі туман,*
*уздыбіцца між дыму відма —*
*постаць за згародаю,*
*і не пасьпее ў сьвятладайны сьвет,*
*цяпельца дагарыць*

* * *

*галавешкі пачуцьцяў сатлеюць,*
*ветах сутонны*
*ім сьведкаю стане*

* * *

*шлях да сьвечкі —*
*роспачны,*
*па росах прышласьці*
*і морам зьніклым,*
*тым*
*Генісарэцкім,*
*Вялікі Воз спагадліва*
*нацэдзіць жменю промняў —*
*дзякаваць яму*



Сяргей НОСАЎ

# ПРАБЛЕМЫ КАНТАКТУ

## Рэфлексіі з нагоды



Праблема кантакту, успрымання была скрыжаваннем, адным з вузлавых момантаў усіх тых філасофскіх канструкцый, што спрабавалі вызначыць сутнасць сусвету і быцця.

Зірнем на некаторыя ідэалагічныя выпадкі згаданай праблемы. Канфуцый* на гэтую нагоду меў адназначнае меркаванне.

Усё, дзякуючы чаму думка можа быць зразуметай — да месца. Галоўнае — перадаць яе з найменшымі стратамі часу і энергіі. "Астатняе ад д'ябла",— скажам за Канфуцыя словамі яго духоўнага брата Хрыста. (Яны шмат у чым падобныя, хаця Канфуцый у сваёй філасофіі не кранае трансцэндэнтнае.) "Тое, чаго я не жадаю, каб рабілі мне, тое я не павінен рабіць другім" (Кан Фу Цы за 550 год да нараджэння Хрыста). Чжэньні сказалі, што вось той "... харошы чалавек, ды толькі бяда — не красамоўны". "А навошта яму красамоўства?!!— уразіўся Канфуцый.— "Сустракаць людзей мудрагелістай прамовай — значыць выклікаць у іх нянавісць!" Тут выразна бачна пазіцыя Канфуцыя. Усё, што не датычыць перадачы думкі, стану душы — гульня логасу; вытанчана зладжаныя моўныя канструкцыі — марнатраўства, непатрэбшчына і больш за тое — шкода. Красамоўствам можна сказіць, згальмаваць голас душы. Збіць з тропу на сафістычныя выбрыкі.

Можна не гаварыць увогуле. Калі позірку, жэсту, руху даволі, то дадаваць да іх слова, што выкідваць мядузу з вады на бераг. Тут згадваецца класічнае да банальнасці: "Мысль изреченная есть ложь".

Здаецца, далей да месца будзе згадаць Хэмінгуэя. Яго героі размаўляюць проста, коратка і выразна. Як быццам прыслухаліся да парады Святога Дабравесця: "Не кляніцеся нічым. Кажыце "Так" ці "Не". Усё астатняе ад д'ябла". У Хэмінгуэя, як у яго сучасніка і шмат у чым аднадумцы-Рэмарка, вытанчаныя моўныя канструкцыі выкарыстоўваюцца адно ў інтымных гаворках, сярод блізкіх між сабой людзей. Але і там гэтае адмысловае маўленне ў значнай меры разрэджанае маўклівымі паўзамі (маўклівай еднасцю), рухамі, жэстамі і да т.п.

Усё, што адбываецца падчас абмену інфармацыяй, нават на падсвядомым узроўні, ёсць знак. Мы ўвесь час абменьваемся гэтымі знакамі. У грамадскім транспарце, натоўпе — усюды. Позірк трохі затрымаўся — вы мяне цікавіце. "Размаўляць, не назіраючы за тварам чалавека, з якім размаўляеш, — найвялікшае глупства" (Кан Фу Цы).

Моўныя выкрунтасы стаюцца прычынай таму, што людзі пачынаюць "хапаць адзін аднаго за язык", лавіць на ўяўных фармальных супярэчнасцях. Сумоўе цалкам згортваецца ў сваю форму, што раз'ядноўвае суразмоўцаў. Уся ўвага засяроджваецца толькі на фармальных прыёмах. Сумоўе ператвараецца ў моўнае фехтаванне (канфуісцкае відовішча) — выпад, абарона, укол.

Адказаў йока — ці маягіры. У пераважнай большасці такіх палемік ісціна гальмуецца. Узнавіць яе потым цяжка.

Гэта самая натуральная драма. Пасля такой спрэчкі адчуваеш сябе стомленым, прыгнечаным і агрэсіўным,— незалежна ад таго, хто перамог. Ад моўных оргій застаецца толькі пякучка.

Сучаснае гэтак званае сумоўе ёсць нечым вельмі падобным да таго, як нашыя біялагічныя прапрапродкі дэманстравалі свае пёркі, цяглiцы, зубы. У салонах шукаюць не ісціну. Тое, што адбываецца ў салонах, нельга не назваць кантактам, але гэта кантакт адмысловага кшталту. У Homo sapiens sex apple збочыў у сферу інтэлектуальнага і інтэлектуальны sex apple выдаецца за мысліўны кантакт.

Ёсць меркаванне, што ў антычнай школе мыслярства "кантакт, як такі, мала цікавіў мысляроў. Адно... красамоўства". Там вырашэнне праблемы кантакту бачылі ў прафесіяналізацыі сумоўя, яго высокім стылістычным узроўні, дасканаласці формы. Але, на наш погляд, калі гаворка ідзе пра элінскую рыторыку, то нельга абмяжоўвацца толькі афінскай школай. Яна не разгорталася б так інтэнсіўна, каб не мела другой скрані, супрацьлеглай альтэрнатывы — лаканскай, спартанскай школы.

Мы тут звернем увагу не на палітычнае, вайсковае ці эканамічнае супрацьстаянне, а на супрацьстаянне прынцыпаў, ідэй, пастаянную дыскусію, спрэчку не толькі словаў, але і ўчынкаў. Заўсёднае супрацьстаянне — што лепш? Такая барацьба, як і ўсялякая іншая, стымулюе пошукі шляхоў да дасканаласці. Афінцы і лаканцы дапаўнялі адны адных. Як ў Кітаі канфуцыянцы і даасісты з дзэн-будыстамі.

Менавіта ў лакадземанян, у іх вырашэнні праблемы кантакту, можна знайсці падабенствы з "канфуцыянскім" Усходам. Яшчэ ў пару Лікурга, мудраца-заснавальніка спартанскай дзяржавы, утварылася школа рыторыкі, са сваёй традыцыяй, якая патрабавала выказваць думку як мага меншай колькасцю слоў. Ну зусім як у Хэмінгуэя. Афінская школа, за выключэннем, бадай, Сакрата, злоўжывала мастацтвам гвалту над суразмоўнікам. Жыхары Атыкі былі спешчаны, слабыя целам, як звычайна інтэлектуалы, але іх сумоўе было бясконцым двубоем.

Лакадземаняне казалі толькі тады, калі справа, ісціна патрабавала слова, калі без слова ўжо нельга было абысціся.

Тым не менш, яны дасканала валодалі словам. Сваім, лаканічным. Яны маглі дакладна пазначыць з'яву быцця, думку, пачуццё ў некалькіх словах. Адразу патрапіць у змесцішча сэнсу. Пабурыць велічную канструкцыю адным, як з прашчы трапна кінутым словам.

Бабель, быццам наследуючы лаканскую традыцыю, сказаў: "Лепшы аповед не той, у які можна нешта дадаць, а той, з якога нельга нічога выкінуць".

"Але што стварыла спартанская культура?" — запярэчыў адзін даследчык. — Толькі вялікіх ваяроў, ды і тыя ўрэшце рэшт былі пераможаныя". Па словах знаўцаў, спартанская паэзія нішчымная. Наскрозь аповед пра бітвы і гераізм ваяроў. Ды і ўвогуле, якую спадчыну пакінулі нам спартанцы? Адно некалькі афарызмаў, накшталт "Прыдзі і вазьмі" Леаніда, якім ён адказаў на вытанчаныя пагрозы Ксеракса. Ды і то гэтыя афарызмы патрапілі да нас дзякуючы вечным апанентам спартанцаў — афінянам.

Адна з асноўных прычынаў занядбання Афінаў бачыцца ў тым, што рашэнні, якія прымаў народны сход, ініцыяваліся дэмагогамі (дакладна — "голас народа"; "дэмас" — народ, "гогас" — голас). Дэмагогі скарыстоўвалі аратарскае мастацтва, каб маніпуляваць натоўпам і фармаваць ахлакратыю, уладу натоўпу. Для гэтай мэты найбольш падыходзіла красамоўнае, рытарычнае слова, сапраўдны сэнс якога паступова губляў сваё першапачатковае значэнне.

Прычына заняпаду Элады бачыцца як ў эстэтычнай празмернасці слова афінскай школы, так і ў згортванні слова да яго таясамасці з дзеяй — у спартанцаў.

Што з гэтага вынікае для нас?

Пакінем гэтае пытанне на роздум...

---

* Аўтар палічыў патрэбным называць Канфуцыя не толькі ў скажонай еўрапейскай традыцыі — Канфуцый, але і так, як падаюць першакрыніцы: Кан Фу Цы і Чжэньні. У трактаце, назва якога перакладаецца як "Выслоўі", кітайскі філосаф выступае пад абодвума гэтымі імёнамі.

ЗНО
Дыскурс

Ы.Ж. — А.Р.

# ЖЫЦЬЦЁ І СЬМЕРЦЬ БУМБАМЛІТАЎЦА

## Успаміны нябожчыка

*Усім заўчасна сканалым эксцэнтрыкам, мастакам-пагарэльцам; Скарынкіну і Дубаўцу — асабіста*

### I

Я сустрэў яго ў Траецкім прадмесьці. Ён сядзеў у глінтвэйнай і, як кажуць цяпер у тусоўках, адцягваўся півам. Твар у яго быў засяроджаны, і сьпіна сьмяялася. Бачыць, што я гляджу на яго, сьпінаю ён ня мог, падумаў я тады. З каго ж ён, мудзіла, сьмяецца? У памяшканьні анікога больш не было, нават бармэнша адышла ў пакойчык.

Дык з каго ж ён сьмяецца — зь мяне ці зь сябе?

Ва ўсіх звычайных людзей вочы — на твары. А ў правадыра бумбамліцкага руху Валянціна Акудовіча — на сьпіне. Але гэта я адно цяпер ведаю. Цяпер, пасьля маёй сьмерці.

Заўважце: чалавек у глінтвэйнай піў піва з куфля, г.зн. прынёс яго зьнізу, дзе месьціцца піўніца.

Федарэнка піша, Сыс вытварае хэпэнінгі, Галубовіч пратакаліруе, Дранько-Майсюк эстэтызуе, Разанаў міфалагізуе, Акудовіч падводзіць прасторачасавы грунт, Дубавец аспрэчвае і абвяргае, але толькі ў адных бумбамлітаўцах гэта ўсё спалучаецца разам, адначасова і арганічна.

Такая эстэтыка бумбамліцтва, не аспрэчаная пакуль яшчэ нават Дубаўцом, якому да зьяўленьня руху заставалася аспрэчыць адно Глёбуса.

Да такой высновы прыйшоў аднойчы Алесь Асташонак, які пакутна шукаў шляхоў аптымальнага самапаяўленьня, і ў глыбінях сваёй стомленай літарацка-бунтарскай душы вырашыў учапіцца за апошнюю надзею і стаць бумбамлітаўцам, але зрабіць гэта неадменна сваім непаўторным шляхам, у чым яму, ведама ж, паспрыяў бы даўні ягоны, спадзяваўся ён, сымпатызант Валянцін Акудовіч.

Калі падумаць над размяшчэньнем вачэй у Акудовіча, дык яно, пэўна, надае ягонаму крытычнаму сьветапогляду неаспрэчныя перавагі, на якія нават Дубаўцу цяжка зрабіць замах, але ж, будзем справядлівыя, і абмяжоўвае гэты сьветапогляд эстэтыкай бумбамліцтва, якое, натуральна, вынікае з такога разьмяшчэння органаў зроку.

Калі я спусьціўся ў прыбіральню, штосьці падштурхнула мяне зазірнуць у піўніцу, што побач.

Там сядзеў той самы чалавек з глінтвэйнай і цяпер ужо пацягваў глінтвэйн, прынесены зьверху. Але саломінку ён, ведома, адкінуў — макаў у глінтвэйн рыбін хвост і ссаў яго.

Я вырашыў паназіраць за ім і ўзяў куфаль піва.

Цяпер сьпіна ў чалавека плакала. Хоць піўніца была перапоўненая і было тут з каго сьмяяцца.

Гэта бумбамлітавец, вырашыў я.

Толькі спрычынены да гэтага руху можа так дэманстратыўна рабіць усё з такім выклікам.

"Усё, цалкам усё насуперак плыні — вось у чым уратаваньне",— падумаў Асташонак і пайшоў раіцца зь Федарэнкам, але па дарозе зноў задумаўся і ў выніку так зь ім і не параіўся. А больш яму раіцца не было з кім.

Спадар Акудовіч напісаў у сваім незабыўным уступе да першай нязгладнай публікацыі няўміручага руху нешта накшталт таго, што бумбамлітаўцам нельга стаць, ім нараджаюцца, як негр нараджаецца неграм.

Было тут над чым задумацца Асташонку, дый нават і самому Дубаўцу. Той, дарэчы, таксама задумаўся тым часам на сваёй віленскай канспіратыўнай кватэры, дзе ён не аспрэчваў і абвяргаў, а дазваляў расслабіцца сваім літаглядным мускулам. Дубавец задумаўся над лёсаноснай сутнасьцю бумбамліцтва, якая можа стацца такою, калі ён аспрэчыць нарэшце Глёбуса, далучыцца да руху і, ведама ж, узначаліць яго.

А яшчэ, падумаў я тады, гледзячы на заплаканую сьпіну бумбамлітаўца, што пакутуе ён праз сваю адзіноту ў гэтым піўным моры звычаёвасьці. Бо й нават негр бывае сумным ад таго, што ён чорны.

Цікава, падумаў Асташонак, а ці мог бы стаць бумбамлітаўцам Майкл Джэксан?

Паводле сп-ра Акудовіча — не: негр ня можа ня быць неграм.

Згодна з дакляраванай сутнасьцю бумбамліцтва, яшчэ як мог бы! І ці ж ня ёсьць Майкл Джэксан увогуле самым сапраўдным бумбамлітаўцам?

Толькі сьляпы можа гэтага ня бачыць, думаў Асташонак і спрабаваў разгадаць, чаму гэта сп-р Акудовіч ніколі не здымае чорных акуляраў, а сьпіна ў яго там, дзе сьмяюцца, насамрэч ня плача, як тое мусіць быць са сьпінаю бумбамлітаўца, а таксама сьмеецца, а там, дзе плачуць, таксама плача, і г.зн. зусім ужо не выдае на сапраўдную бумбамлітаўскую сьпіну.

А Дубавец, у якога з аналітычным мысьленьнем, ведама ж, значна лепш, чым у якогась там белетрыста Асташонка, што піша, тым больш, пераважна пра алкашоў, у якіх слабавата з аналітычным мысьленьнем, Дубавец, назіраючы са сваёй віленскай абсэрваторыі за Акудовічам з дапамогаю Глёбуса, пайшоў яшчэ далей у сваіх думках: трэба яшчэ праверыць, ці ж сьпіна гэта ў Акудовіча і ці ж ёсьць у яго ўвогуле сьпіна.

Бо які ж ён бумбамлітавец, а тым больш правадыр руху, і што ж гэта за сьпіна, калі ён ня ведае, што негр можа ня быць неграм.

Стоп. Стаўшы белым, негр можа застацца неграм. Гэтаксама і бумбамлітавец, стаўшы ім, можа заставацца небумбамлітаўцам?

Бумбамлітавец можа бачыць і сьпінаю, і ня сьпінаю.

І калі ён бачыць ня сьпінаю, дык толькі прытвараецца, што ён бумбамлітавец.

І Асташонак і Дубавец адчулі гэта сваімі сьпінамі. Так і ўбачылі імі, што Акудовіч адно прытвараецца.

Назіраньні за бумбамлітаўцам прывялі мяне ў лазьню.

Мабыць, ён пацягнуўся туды з-за любові да тазікаў.

Я цікаваў за бумбамлітаўцам голым. Дзіўная гэта было відовішча; усё звычайнае, як у самага сапраўднага небумбамлітаўца, нічога асабліва чорнага, нават там, дзе б магло быць чорна — нешта рудое, выгарэлае, вылінялае. А самае галоўнае — ніякай асаблівай любові да тазікаў: свой тазік ён скарыстоўваў самым звычаёвым чынам.

Тады я насьмеліўся і падышоў да яго блізка. Потым увогуле сеў побач. З тазікам. І пачаў ціхенька паляпваць па ім далонаю.

Бумбамлітавец пакрысе адсунуўся ад мяне.

І тады Асташонак уцяміў: дык, значыцца, не адзін Акудовіч прытвараецца, а яшчэ й сёй-той зь іншых бумбамлітаўцаў? Наадзежаны — бумбамлітавец, голы — не? Тут і праўда было над чым падумаць.

Тое ж самае адначасна ўцяміў і Дубавец, хоць даўно ўжо ня ходзіць у лазьню, а мыецца, як найсапраўдны бумбамлітавец, у тазіку на сваёй віленскай канспіратыўнай кватэры. І тады Дубавец вырашыў, з палёгкаю ўздыхнуўшы, адмовіцца ад ідэі самадалучэньня да бумбамліцкага руху і ўславіў свой лёс за тое, што даў яму такую магчымасьць манеўраваць у сваім сховішчы, далёкім ад межаў распаўсюджваньня бумбамліцтва.

Вы думаеце, Асташонак здурнеў і вырашыў, што чалавек у глінтвэйнай і піўніцы бумбамлітавец адно таму, што піў усё наадварот? Не, у Асташонка яшчэ не зьехалі глузды. Ён, як асоба ў літарацкім сьвеце абазнаная, нездарма ж пра яго пісаў у гэтым пляне ажно сам Вераціла, прызнаў у чалавеку... Але ня будзем казаць, каго, бо не сказаў яшчэ свайго апошняга важкага слова, не падаў яшчэ з Вільні голасу Дубавец, а Дубаўцу, ягонаму крытычнаму чуцьцю нават Асташонак, з усёй ягонай даўно заўважанай любоўю да гэтага анахарэта, давярае. Ня час яшчэ рассакрэчваць таго чалавека, выстаўляць ягоную небумбамлітавасьць у няпэўным сьвятле, дый яшчэ ў сьвятле найапошнейшых посьпехаў бумбамліцкага руху, гэта ж не Акудовіч, пра якога што ні ўтойвай, усё роўна ня ўтоіш, гэтак ён найапошнейшым часам у полі зроку заўважны.

### II

Увечары я назьбіраўся з Акудовічам. Сьляпы ён ці не, нават убачыўшы яго добра п'яным, я так і не разгледзеў. Ды толькі ў бумбамліцтве, здалося мне, па вялікім бумбамліцкім рахунку, анічога ня цяміць: я прапаноўваў яму ўтварыць назаўтра адну простую акцыю, нешта накшталт хэпэнінга (не аднаму ж Сысу блазнаваць, даводзячы да прафанацыі жанр, які мусіць стаць дамінантным у літаратуры, бо адбяргае асновы асноваў — слова), а Акудовіч цьвёрда, хоць і зусім ужо добра п'яны, адмовіўся саўдзельнічаць, сказаў, што скажуць, што ў нас глузды зьехалі і яго тады ніколі ня будуць называць у прыстойных пераліках і ня прымуць у Саюз пісьменьнікаў, Дубавец аспрэчыць, абвергне й асудзіць, і нават больш, Вераціла напіша пра тое ў "Звяздзе" і тады канец усяму ягонаму бумбамліцтву разам з усімі спадзяваньнямі на лепшы заўтрашні дзень.

---

Ірына ШАЎЛЯКОВА

# МЕТАФАРА І СІМВАЛ ЯК СТВАРАЛЬНІКІ "НОВАГА" МІФА*

## Спроба схематызацыі



### I. Вобраз

Міф, як вядома, занатаваў стасункі чалавека і прыроды, па сутнасці, ён вырас з гэтых стасункаў. Разгледзім ланцужок:

ВОБРАЗ → МЕТАФАРА → СІМВАЛ → МІФ

Калі "міф" узнік з прыроды, то атрымліваецца:

прыродны ВОБРАЗ → прыродная МЕТАФАРА → прыродны СІМВАЛ → прыродны МІФ.

Калі вобраз — гэта канкрэтны і ў той жа час абагулены малюнак чалавечага жыцця, то супервобраз — гэта суперабстрагаванне: ад канкрэтнай, "цвёрдай" прыроды да абстрактнай, "лятучай". Справа не ў "блукаючых вобразах" — яны знаходзяцца " на адным месцы", справа ў мадыфікацыях адзінага архетыпа. Напрыклад, у "Скарбах жыцця" М.Гарэцкага часта згадваецца выспа Патмос, назва якой быццам бы азначае густалістае тэравінфавае дрэва: яно жыве тысячу год, а потым на месцы адмёршага з'яўляюцца маладыя парасткі: "Усохлая дуля зялёны сучок паказала. Залаты чавёнчык плыў па сінім моры. Хвалі і праслаўляй выспу Патмос". Дрэва-Фенікс выклікае паралелі, звязаныя з птушкай-агнём. Полымя ў М.Гарэцкага — адначасова і прадстаўнік вечнасці, і адзін з яе твараў. Такім чынам вобразы-архетыпы Дрэва і Вечнасці аб'ядноўваюцца: у тых жа зараастрыйцаў шлях у неба (а значыць і ў вечнасць) адбываецца праз драўляныя вежы, пахавальныя абрады ў многіх народаў можна прадставіць схемай:

дрэва + агонь → гарэнне → Вечнасць.

Усё гэта гаворыць пра тое, што прадвызначанасць сінтэтычнасці пра-міфа існуе не проста на ўзроўні сінтэзу сакральных ведаў, філасофіі, рэлігіі і мастацтва, пра-міф пабудаваны на адзіным Вобразе, часткі якога — архетыпы — знаходзяцца ў дыялектычным спалучэнні.

Такім чынам, ёсць велізарная "чарапаха", на якой трымаецца ўвесь "свет". Гэтая "чарапаха" — нейкі Пра-Вобраз.

### II. Метафара

(Перш чым гаварыць пра метафару, дамовімся, што будзем адрозніваць тэрмін "паэтычны вобраз" ад таго Пра-Вобраза, які не стаў для чалавека Логасам.)

**1. Паходжанне**

Нямецкі псіхолаг Вернер выказаў у 1919 годзе думку, што метафара каранямі трымаецца ў духу табу. Страх некалі быў галоўным стымулам дзеянняў чалавека. Найбольш распаўсюджаная ў якой-небудзь мясцовасці жывёла, ад якой залежала харчаванне, набывала сакральны статус. Адсюль узнікла ўяўленне, што да яе нельга дакранацца рукамі. Што тады рабіў, скажам, індзеец Лілаэт? Ён садзіўся на кукішкі і падсоўваў рукі пад калені. Такім чынам есці дазвалялася, таму што рукі пад каленямі — метафарычна тыя ж ногі. Так узнік троп цялеснай позы, першасная метафара, якая папярэднічала цялеснаму вобразу. Слова для першабытнага чалавека — тое ж, што і рэч, таму становіцца нельга і называць той прадмет, на які прыпадае табу. Гэты прадмет дазволена згадваць ва ўскоснай форме. Палінезіец, якому нельга называць нічога, што адносіцца да караля, калі бачыць полымя факелаў каля палацахіжыны, павінен сказаць: "Святло зязе сярод нябесных хмараў". Вось прыклад метафарычнага ўхілення.

Вернемся да страху. Р.Дэбрэй вылучае "этапы кар'еры сапіенса на падставе развіцця ягоных тэхналогій перадачы вобразаў". Дык вось, першы этап — гэта эра ідалаў (у шырокім сэнсе слова, ад грэчаскага eidolon — выява). "Выява па чарзе выконвае функцыю пасрэдніка з трыма сусветамі: звышнатуральным, існуючым, віртуальным." Выява спараджае пэўныя эмацыйныя станы. Што да Ідала, дык ён выклікае менавіта *страх*.

Такім чынам, утвараецца своеасаблівы рад, ланцуг:

пачуццё (эмоцыя) → лагічныя аперацыі → метафара.

Што ж атрымліваецца, месцазнаходжанне метафары — на мяжы эмоцый і розуму? Ужо ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзя пачынаюць з новай сілай праяўляць сябе сінкрэтычныя погляды на свет. Узнікае некалькі філасофскіх кірункаў, якія вяртаюцца да сінкрэтычнага натурфіласофскага падыходу да вырашэння праблем быцця. Першы з іх звязаны з Міхаілам Фёдаравым і яго ідэяй аб'яднання навукі і рэлігіі. Другі — тэасофскі — з працамі Алены Пятроўны Блавацкай. Трэці — з ідэяй ноасферы акадэміка Вярнадскага, згодна якой суперрозум — не што іншае, як сукупнасць усіх думак, вобразаў і г.д. (Дарэчы, сучасны беларускі філосаф А.К.Манееў прыйшоў да высновы: усё, што перажывае і мысліць чалавек, захоўваецца ў прасторы ў выглядзе своеасаблівых галаграм і фіксуецца біяполем. Таму няцяжка пры жаданні зазірнуць у архіўнае клішэ, бо ўсё ў прыродзе падпарадкавана закону адраджэння.

**2. Сутнасць пра-метафары**

Такім чынам, пра-метафара нават на ўзроўні табу — "незамянімая прылада розуму", як лічыў Хасэ Артэга-і-Гасэт. "Нам неабходна яна не проста для таго, каб, адшукаўшы імя, давесці нашы думкі да некага іншага, — яна патрэбна нам для нас саміх: без яе немагчыма мысліць пра некаторыя складаныя для розуму прадметы". Таму метафара — не толькі сродак выражэння, але і адна з асноўных прылад пазнання. З яе дапамогай спасцігаецца тое, што не пад сілу паняццям. З дапамогай блізкага мы дакранаемся далёкага. Метафара падаўжае радыус дзеяння думкі і ўяўляе сабой у логіцы нешта накшталт вуды ці стрэльбы. Дзякуючы метафары не пераадольваюцца межы мыслення, а толькі забяспечваецца практычны доступ да таго, што мроіцца на мяжы дасягальнага. Неабходна ўсвядоміць, што "метафара — гэта ісціна, пранікненне ў рэальнасць" (Артэга-і-Гасэт).

**3.Эвалюцыя**

Калі можна ў хронасе прасачыць развіццё навуковаў думкі, дык чаму ж нельга прасачыць змяненне метафары? Размова не зусім пра эвалюцыю метафары ў агульнапрынятым сэнсе слова: час у мастацтве —

## III

Вось як разгортвалася акцыя.

Я нацягнуў на сябе жончыны белыя з чырвонымі карункамі ласіны, зьверху чырвоныя шорты, абгарнуў белую майку бел-чырвона-белым сьцягам, а выйшаўшы з пад'езду, пстрыкнуў кнопкаю — і нада мною раскрыўся чарнейшы за ноч парасон. Прайшоў у суседні пад'езд і націснуў на званок. "Ну як?"— запытаўся я зусім цьвярозага Толю Жука. "Нармалёва", — ацаніў ён мой выглёнд.

Падумаўшы, у адказ на маю прапанову, якую адпрэчыў учора стырнавы бумбамліцкага руху Акудовіч, Жук руплiва зашпіліў сьцяг на мне ангельскімі шпількамі.

Я ішоў па тратуары, прыкрываючы ад сьпякотнага ліпеньскага сонца адменены сьцяг, а побач, на невялікай адлегласці, ішоў Жук і тлумачыў: "Гэта акцыя. Пратэст".

Людзі спыняліся й глядзелі на мяне. Адна, як расказваў мне потым спадарожнік, вабная, інтэлігентная кабета нават была ў захапленьні. "Здорово",— сказала яна. Дальбог.

## IV

Назаўтра, у роспачы, я запісаў тое, што адчуваў, у форме так званага верша:

*Часам мне здаецца,*
*што я даўно памёр.*
*Толькі чаму не хаваюць мяне?*
*Чаму я хаджу вуліцамі*
*і нават бываю сярод знаёмцаў?*
*Пра мяне за сьпінаю кажуць,*
*што я вар'ят, п'яніца, блазен,*
*ганарлівы, высакамерны,*
*а самыя праніклівыя —*
*што я люблю пры ўсіх разьдзявацца*
*і таму на твары маім самота.*
*І гэта адно паўпраўда,*
*бо ніхто ня бачыць,*
*што я, захутаны, даўно ўжо ня тут.*
*Нават Сыс, якому, зь ягоных слоў,*
*ужо семдзесят сем гадоў.*
*А мне ж таксама семдзесят сем —*
*пасьля маёй сьмерці.*

## V

"Бяда, братка, бяда",— кажа мой сусед, ніякі не бумбамлітавец, Толя Жук.

## VI

Неўзабаве я расказаў пра тое, як зьдзейсніў акцыю, цьвярозаму Акудовічу.

"Выдатна",— раптам сказаў ён.

"Глузды зьехалі",— падумаў я.

Я спрабаваў зразумець, дзе ж усё-ткі ў Акудовіча вочы і што тоіцца пад знакамітымі чорнымі акулярамі.

І Дубавец не абазваўся ўва мне ўнутраным сьпінным голасам.

## VII

Тады і памёр ува мне бумбамлітавец.

Уладзімір АРЛОЎ

# БЯСКОНЦАСЦЬ РАЗВІТАННЯ



### БОЖАЯ КАРОЎКА З ПЯТАЙ АВЕНЮ

*На спатканне з табой*
*мяне прывяла*
*бетонная спіраль*
*нью-ёркскага Гугенхайма*
*і 2-я версія імправізацыі № 28*
*Васіля Кандзінскага*
*разам з "Парыжам" Марка Шагала,*
*чый зеленавокі кот з чалавечым тварам*
*глянуў на мяне так выразна,*
*што я даў зарок*
*убачыць Эйфелеву вежу з вакна*
*раней, чым за свае грахі*
*вярнуся на зямлю*
*ў іпастасі ката —*
*якраз тады ты апусцілася на маю руку,*
*каб упэўнена залезці*
*ў левую кішэню.*
*Кім была ў сваім мінулым увасабленні*
*ты?*
*Паслушніцай*
*Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра?*
*Першакласніцай з Сербранкі,*
*замучанай у ліфце*
*сексуальным маньякам?*
*А можа,*
*у цябе перасялілася*
*душа маёй сучасніцы,*
*якая жыве зараз*
*паводле менскага часу*
*і якой*
*апошні тралейбус*
*вязе з дзяцінства*
*сон пра старую Нямігу*
*і пра Татарскія Агароды?*
*У душным сабвэі*
*я даю табе*
*беларускае імя,*
*а на беразе Іст-Рывэр*
*мы разам глядзім*
*на лёгкія самалёцікі,*
*што цягаюць па небе*
*рэкламу конкурсу фотамадэляў.*
*Магчыма, ты хочаш*
*палётаць з імі?*
*Не, табе яўна цікавей*
*абмеркаваць са мною*
*модныя сёння*
*беларуска-ірландскія аналогіі,*
*абвінавачанні прэзідэнта Клінтана*
*ў адзюльтэры,*
*а таксама*
*фантасмагарычны помнік Леніну,*
*што, ратуючыся ад настальгіі,*
*усцягнулі на дах суседняга дома*
*эмігранты з СССР.*
*Менавіта тут я нарэшце разумею:*
*я — не тая расліна,*
*што прымецца на гэтай глебе,*
*нават калі перавезці сюды*
*такія помнікі з усёй Беларусі*
*і зладзіць на кожным*
*па буслянцы.*
*Пасадзіўшы цябе на далонь,*
*я паўтараю гэтае адкрыццё ўголас*
*і ты,*
*паважна выслухаўшы,*
*супакоена раскрываеш крыльцы.*



### ДОЎГАЕ РАЗВІТАННЕ

*Усё жыццё — развітанне з табой,*
*якое пачалося*
*яшчэ да майго з'яўлення на свет*
*і доўжылася ў радзільні*
*на полацкім Верхнім замку,*
*у лёхах*
*сабора святога Стэфана,*
*дзе чалавечы чэрап*
*быў самай ардынарнай знаходкай,*
*у першым мужчынскім досведзе,*
*набытым з палахлівай аднагодкаю*
*ў вясковай лазні.*
*І ты, незнаёмая,*
*ужо развіталася са мной*
*у дзіцячых гульнях,*
*у чужых абдымках,*
*у начных таксоўках,*
*пакуль два развітанні*
*не перасекліся ў тым імгненні,*
*калі перад нашымі тварамі*
*на карункавай прасціне папараці*
*займаліся любоўю*
*пара лясных перламутравак*
*і дрыяды*
*з чорнымі ад чарніц вуснамі*
*заціхлі ў падлеску,*
*не адводзячы бессаромных вачэй,*
*а пылок з матыльковых крылцаў*
*аказаўся салодкі на смак*
*і вада ў нашым возеры*
*назаўсёды засталася цяплейшаю*
*ад твайго*
*навекі маладога цела,*
*якое будзе развітвацца з маім*
*у чабаровых уладаннях*
*ліпеньскай яшчаркі,*
*у прыцемных успамінах*
*замшэлых азёрных шчупакоў,*
*у снах нашых сыноў, якім*
*у сярэдзіне наступнага стагоддзя*
*прысніцца далёкае возера*
*і салодкі пылок*
*матыльковых крылцаў,*
*ва ўзоры якіх*
*зашыфраваная*
*наша вечная прыналежнасць*
*гэтай бясконцасці*
*развітання.*

---

круг. Маецца на ўвазе не "эвалюцыя" эстэтычна-каштоўнай якасці метафары, а змяненне абстрактна зададзенай велічыні пад уздзеяннем соцыума і яго адносін да прыроды.

Кожная метафара ўяўляе сабой "адкрыццё закону універсума" (Артэга-і-Гасэт). Вучоныя-мовазнаўцы сярэднявечча спрабавалі стварыць універсальную тэорыю даследавання моў, бо план зместу ва ўсіх мовах аднолькавы, розняцца толькі планы выражэння. Гэта дае падставы меркаваць пра універсальную метафару.

Метафара нарадзілася з табу тады, калі Прырода была гэтым табу, а не чалавек. Таму ў архаічнага міфа і карані прыродныя: прырода → вобраз-здымак → лагічныя аперацыі → метафара. А што далей?..

## III. Сімвал

Сімвал — ад грэчаскага symbolon — "умоўны знак".

**1. Паходжанне**

А.Ф.Лосеў лічыў, што "метафара паказвае толькі на самую сябе; сімвалічная вобразнасць багацейшая за метафарычную тым, што сведчыць яшчэ і пра нешта іншае". З гэтых слоў лагічна вынікае семіятычная прырода сімвала.

Вернемся да канцэпцыі Дэбрэя. Эра ідалаў — гэта эра выяваў. Да нядаўняга з'яўлення (прайшло толькі 4 тысячы гадоў першых сродкаў лінейнай занатоўкі гукаў) выява займала месца пісьма. Гэта быў "чысты сімвалізм, класічны і інтэлектуальны разам, у высокай ступені рытуалізаваны, і, без сумнення, паяднаны з вербальным выказваннем. Гэты перыяд доўжыцца ад першых асэнсаваных накідаў на аскабалках касцей да піктаграмаў і міфаграмаў (шматвымерных канструкцый з уласнай аўрай).

Гэта — перыяд існавання "наіўнага сімвала". Але калі метафара роўная факту, то тады сімвал — знешні знак для абазначэння ідэі. Эвалюцыя знака — эвалюцыя ідэі.

Існуе, як вядома, тры віды сімвалаў:

— канвенцыяльныя (матэматычныя абазначэнні, дарожныя знакі);

— выпадковыя (асацыяцыі, якія ствараюцца выпадковымі кантактамі, — да гэтых, відаць, можна аднесці механізм нараджэння снабачанняў;

— універсальныя (валодаюць найбольшым патэнцыялам, звязаны і з Космасам, і з падсвядомасцю. Дарэчы, сувязь слова з Космасам заўважыў Канстанцін Кедраў, які прыйшоў да высновы, што існуе нейкі адзіны код у старажытнай фальклорна-міфалагічнай і рэлігійнай сімволіцы: "Гэта адзінства я абазначыў тэрмінам метакод. (...) метакод — гэта ўстойлівая сістэма астранамічнай сімволікі, агульная для розных арэалаў культур". Сувязь з падсвядомасцю тлумачыцца праз сімволіку снабачанняў, паэтыку сну, якой шырока карысталіся і сюррэалізм, і постмадэрнізм.

Дапусцім, што гэтыя тры віды сімвалаў размешчаны не гарызантальна, а на ўзыходзячай прамой:

канвенцыяльны → выпадковы → універсальны.

Паспрабуем суаднесці развіццё-эвалюцыю сімвалаў з тэорыяй "трох зрокаў" Дэбрэя:

1) Ідал (выява) — яго эра — вынаходніцтва пісьменнасці і друку,

2) Мастацтва — эра паміж вынаходствамі друку і каляровага тэлебачання.

3) Дысплей — наша сучаснасць.

Ідал адлюстроўвае нерухомы час, "непрытомную вечнасць, вертыкальны зрэз у застылай бясконцасці боскага". Вось вам і канвенцыяльны сімвал. Мастацтва існуе павольна, але паказвае ўжо рухомыя вобразы. Яго можна атаясаміць з выпадковымі сімваламі. Дысплей увасабляе нематэрыяльны і штораз вялікшы тэмп, "бесперапынную ратацыю".

Па логіцы развіцця фактару часу дысплею павінен адпавядаць універсальны сімвал. Але гэтага не адбываецца. Чаму? Ці не звязана гэта з парушэннем існуючага лагічна-дэтэрмінаванага ланцужка, які прыводзіў да ўтварэння архаічнага міфа?

## IV. Міф як абстракцыя

Па вызначэнні А.Ф.Лосева, "міф адрозніваецца ад метафары і сімвала тым, што ўсе тыя вобразы, якімі карыстаюцца метафара і сімвал, разумеюцца тут абсалютна літаральна, абсалютна субстанцыяльна."

Звернем увагу на этымалагічныя ўзаемаадносіны метафары і міфа, сімвала і міфа.

1) Метафара і міф. Калі браць міфа-паэтычную свядомасць з яе анімізмам і ўспрыманнем Космасу як адзінага цэлага, то міфалагічная свядомасць спараджае псіхалагічны паралелізм, а ён у сваю чаргу — усе тропы. З другога боку, табуацыя некаторых слоў і іменаў прывяла да з'яўлення сінонімаў, метафарычнага іншасказання — а міф, як і мова, заснаваны на метафарычнасці мыслення.

2) Сімвал і міф. Лосеў: "Любы міф ёсць сімвал. Менавіта міф, які складаецца з бясконцых і бессмяротных жывых істотаў, найбольш лёгка паддаецца сімвалічнай апрацоўцы. Такім чынам, любы міф ёсць сімвал, але не любы сімвал ёсць міф". Зноў жа ўзаемапранікненне.

Калі ўзнікае міф? Андрэй Белы зазначаў: "Міфічная творчасць або папярэднічае творчасці эстэтычнай (свядомае выкарыстанне сродкаў выяўлення магчымае толькі на стадыі разлажэння міфа), або ідзе за ёй (у эпохі распаду пазнання, усеагульнага скепсісу, упадка культуры)".

У першым выпадку, відавочна, ствараецца "стары" міф, у другім гаворка ідзе пра міф "новы".

## V. "Стары міф"

Маецца на ўвазе "наіўны", артадаксальны міф. Стары міф нясе правазвесце Культурнай эпохі, але ён — і своесаблівы дэміург гэтай эпохі. Гэты міф патрабуе наяўнасці двух суб'ектаў: чалавека і прыроды. Іх узаеміны самыя разнастайныя:

а) імкненне чалавека да персаніфікацыі прыроды: пад Прыродай маецца на ўвазе Super ego. Суіснуюць як бы дзве субстанцыі — ego і Super ego;

б) эмпатыя — адваротны працэс, пераўвасабленне чалавека ва ўсё жывое, здольнасць псіхікі пераадольваць антрапамарфізм, які адлюстроўваецца нават у навуковых паняццях: сіла, энергія, кіраванне — семантычны антрапамарфізм. Тут ужо суіснуюць субстанцыі першаснай Supernaturae і naturae вытворнай.

Стары міф жыве і зараз. Адна з яго праяў — філасофія пантэізму, якая асабліва ярка праяўляецца, як адзнака беларускай ментальнасці, у лірычнай плыні сучаснай беларускай прозы.

## VI. "Новы" міф

"Новы" міф — прадукт і стваральнік эпохі Цывілізацыі. Дапусцім, што яго нараджэнне звязана з разбурэннем. Чаго? Дэбрэй гаворыць пра тры спосабы існавання мастацкага вобраза ў заходнім менталітэце: прысутнасць (эра ідалаў), рэпрэзентацыя (эра мастацтва), і імітацыя (эра дысплея). Выява спараджае тры эмацыйныя станы: Ідал выклікае страх, Мастацтва — закаханасць, Экран — цікаўнасць. Першы падпарадкаваны *архетыпу*, другі кіруецца нейкім прататыпам, трэці прадпісвае нам свае ўласныя стэрэатыпы.

Можна сказаць, што Ідал і Мастацтва разбураюцца пад уздзеяннем інфарматыўнасці Экрана: статычная выява не можа супрацьстаяць хуткай плыні знакаў, кожны з якіх прэтэндуе на ролю выявы. Прымітыўнае, але сістэматызаванае падымаецца над несістэматызаваным складаным, якое не паддаецца схематызацыі.

Такім чынам, павінны былі б разбурыцца канвенцыяльныя і выпадковыя сімвалы, а універсальныя — застацца. Парадокс і разам з тым заканамернасць — застаюцца толькі канвенцыяльныя, як аднамерныя. Мноства адназначнага пры руху стварае ілюзію складанага і шматзначнага.

(Заканчэнне на стар. 12)

ЗНО Сучаснае мысленне

## ЮЗЭФ (ІНАЦЭНТЫ) МАРЫЯ БАХЕНЬСКІ

***Уплыў, які аказаў на філасофію і тэалогію XX ст. гэты швейцарскі мысліцель польскага паходжання, цяжка пераацаніць. Гэтаму паспрыяла ў тым ліку і шырыня зацікаўленняў філосафа, у сферы якіх апынуліся гісторыя, тэорыя і сучасны стан, асноўныя праблемы і тэндэнцыі развіцця логікі (гэтай тэме прысвечаны цэлы шэраг працаў, сярод якіх выразнім наступныя: "La logique de Théophaste" (1939), "Précis de la logique mathetatique" (1948), "Ancient Formal Logic" (1951), "Formale Logik" (разам з А.Мэнэ, 1956), "The Logic of religion" (1956, польскі пераклад — "Logika religii" — быў апублікаваны ў 1990 г.), "Grundriss der Logistik" (1973), гісторыя і актуальныя пытанні філасофіі ("Europäische Philosophie der Gegenwart"(1947), "Wege zum philosophischen Denken" (1959, польскі пераклад — "Ku filozoficznemy myśleniu"— з'явіўся ў 1986г.), "Zarys historii filozofii" (1993), метадалогія філасофіі і навукі ("Die zeitgenössene Denkmethoden" (1954), "Contributions of Logic and Methodologic" (1965, у кнізе змешчана найпаўнейшая бібліяграфія твораў Бахеньскага).***

***Бахеньскі праводзіў даследаванні антычнай і сярэднявечнай логікі, у якіх ужываў метады і фармальныя сродкі, распрацаваныя Янам Лукасевічам. Але ў якасці найважнейшае задачы філосаф разглядаў стварэнне "сінтэтычнага" метаду філасафавання, у працэсе чаго, на яго думку, трэба звярнуцца да элементаў дактрыны неапазітывізму, фенаменалогіі і аналітычнай філасофіі.***

***Нельга, мабыць, адназначна сцвярджаць, што мысліцель заўсёды адчуваў сваё філасафічнае пакліканне. Так, у 1920–1926гг. ён вывучае права і эканоміку ва універсітэтах Альбава і Познані. У 1927 годзе Бахеньскі ўступае ў закон дамініканаў і толькі годам пазней пачынае вывучаць філасофію ў Фрыбургу (Швейцарыя). У 1931г. Бахеньскі атрымлівае ступень доктара ў галіне філасофіі, і наступныя чатыры гады прысвячае навучанню тэалогіі ў Папскім універсітэце "Collegium Angelicum", скончыўшы яго напісаннем доктарскай дысертацыі. У 1935 — 1940гг. ён робіцца прафесарам логікі ў "Colegium Angelicum", а таксама часова выкладае у Кракаўскім універсітэце (1938). Падчас падзеяў Другой сусветнай вайны Бахеньскі — капелан польскага войска на фронце. Пасля ўстанаўлення на бацькаўшчыне прарасійскага сталінскага рэжыму філосаф быў вымушаны застацца на Захадзе: ён выконвае функцыі прафесара ва універсітэце Фрыбурга, у 1950 — 1952гг. — абавязкі дэкана аддзялення філасофіі, а ў 1964 — 1966гг. — рэктара. У 1966г. універсітэт Notre Dame (Індыяна) надае вучонаму дактарат honoris causa правазнаўчых навук. Бахеньскі актыўна супрацоўнічае з універсітэтамі Notre Dame, Каліфорніі, Канзаса, Эдмантана. У 1961 — 1962гг. — дырэктар Усходняга коледжу ў Калоніі. Творы Бахеньскага перакладзены на бальшыню еўрапейскіх моваў.***

***І апошняе, на што немагчыма не звярнуць увагі. На працягу ўсяго свайго творчага шляху філосаф рэзка выступаў супраць філасафічных падставаў марксізму, разглядапага ім як пазбаўленая навуковага ўгрунтавання вера. Бахеньскі выступіў укладальнікам серыі выданняў, прысвечаных гэтай праблематыцы ("Bibliographie der sowjetischen Philosophie" (1959), "Studies in Soviet thought" (1958), а таксама аўтарам фундаментальных даследаванняў ("Die dogmatischen Grundlagen der sowjetischen Philosophie" (1959), "Diamat" (1961), "Marksismus-Leninismus" (1976).***

***У прапанаваным чытачовай увазе тэксце Бахеньскі разглядае пытанні, якія павінна ізноў паставіць сённяшняя тэалогія. Ён аналізуе дзве так званыя "асноўныя ідэі", сярэднявечную і асветніцкую, а таксама актуальныя сёння светапоглядныя канцэпцыі, што існуюць у нашым культурным коле. Абедзве яны, на думку аўтара, устарэлыя і не адпавядаюць рэальнасці. Такім чынам, на парадку дня з'яўляюцца задачы "прадумання нанава" нашага светапогляду, што і неабходна зрабіць у будучыні.***

**Перакладчык**

# ДУХОЎНАЯ СІТУАЦЫЯ ЧАСУ

## I

Карл Ясперс, адзін з найбольш славутых мысліцеляў XX стагоддзя, выдаў калісь кнігу пад назвай "Die geistige Situation der Zeit" — "Духоўная сітуацыя часу". Кніга была апублікавана ў перыяд, поўны палітычных забурэнняў — і няма дзіва, што філосаф закрануў у ёй перадусім грамадскія і палітычныя справы. Але яе загалоўку можна таксама надаць і глыбейшае значэнне: яго можна аднесці да падставаў нашай думкі і чыну, гэта значыць нашага светапогляду. У гэтым значэнні ён ужыты і тут.

Уражанне, што ў гэтым сэнсе мы знаходзімся на пераломе, сёння шырока распаўсюджанае. У Злучаных Штатах, напрыклад, шырыцца рух пад назвай New Age — "Новая эпоха". Даныя ўвагі не маюць нічога супольнага з поглядамі прадстаўнікоў гэтага руху (які напару мяжуе з ірацыяналізмам і псеўдамістычным змяшэннем паняццяў), выяўляючы адно простае сцвярджэнне*, што мы жывем падчас згаданага пералому. Гаворка не ідзе аб тым, якім чалавецтва мае быць і якім будзе, але толькі аб пасуленні негатыўнага вызначэння, у якой меры адбыўся разрыў з мінуўшчынай.

Якія вынікі гэтага разрыву? Можна было б памеркаваць, што гаворка ідзе аб светапоглядзе. Вось жа светапогляды сапраўды закранутыя крызісам, але не ў тым сэнсе, што гаворка ідзе толькі аб *адным* светапоглядзе. Разрыў з мінуўшчынай сягае глыбей, ён датычыць перадумоваў *усіх* светапоглядаў, рамак, у якіх яны паўсталі. Дарма што прыняццё светапогляду ёсць у прынцыпе адвольным: у тым плане, што ніхто не можа быць прымушаны яго прыняць, не бывае так, каб у кожнай эпосе ў нас з'яўлялася магчымасць прыняцця кожнага мажлівага светапогляду. У гэтым сэнсе наша свабода мае межы.

Гэтыя межы вызначае найперш стан навуковай веды эпохі. Толькі адзін прыклад: у XX стагоддзі нельга не прыняць погляду, згодна з якім сонца кружыніцца вакол Зямлі. Па-другое, наша свабода ў прыманні светапоглядаў абмежавана калектыўным дасведчаннем чалавецтва. Такім дасведчаннем, аб якім яшчэ пойдзе гаворка, ёсць факты чалавечай лютасці цягам майго пакалення. Любы светапогляд, які знаходзіцца ў супярэчнасці з гэтым дасведчаннем, цяпер не можа быць прыняты.

Не існуе ў дастатковай ступені адназначнай тэрміналогіі, калі гаворка ідзе аб такіх перадумовах. Безумоўна, яны не светапогляды і, такім чынам, ні рэлігія, ні ідэалогія, ні філасофія. Дзеля нястачы лепшых выражэнняў назавём створаныя навукай і дасведчаннем рамкі — "духоўнай сітуацыяй", а супольныя светапоглядам элементы — "асноўнай ідэяй" эпохі.

Увагі, змешчаныя вышэй, можна абагульніць у наступнай думцы: *у гэты момант мы перажываем крызіс, выклікаяы зменай духоўнай сітуацыі і звязаным з ёй разрывам з асноўнымі ідэямі, прынятымі ў мінуўшчыне.*

Пры гэтым гаворка ідзе выключна аб духоўнай сітуацыі інтэлектуальнай эліты нашага культурнага кола. *Эліты*, бо масы, нават масы адукаваных людзей, перажываюць духоўныя змены з вялікім спазненнем, іншага разу пасля змены некалькіх пакаленняў *нашага кола*, бо, насуперак прапагандзе шматлікіх ідэолагаў, усе іншыя цывілізацыі перабываюць у працэсе згасання.

## II

Нават павярхоўны аналіз паказвае, што ў нашым культурным коле мы маем да чынenні (так у арыгінале. — **Рэд.**) з дзвюма ўзаемна незалежнымі супольнасцямі (zespoolami) падзеяў: адна — гэта згаданы пералом, другая — гэта распад. Нашы сацыёлагі ўжо даўно заўважылі праявы гэтага распаду, і пісалі аб "упадку" і "цяжкай хваробе" Захаду. На самой рэчы ў бальшыні супольнасцяў, прыналежных да культурнага кола, навідавоку ўсе сімптомы распаду: аслабленне грамадскіх сувязяў, знікненне волі да ўзброенай абароны, адсутнасць жадання нараджаць дзяцей, скептыцызм і да таго падобнае**. Адсюль *можна сцвердзіць вынікненне адначасова з пераломам (у духоўнай сітуацыі і яе асноўнай ідэі) незалежных ад яго праяваў грамадскага распаду.*

Гэты факт не цікавіць нас тут непасрэдна. Мы згадалі аб ім толькі таму, што яго існаванне абцяжвае аналіз пералому. Спалучэнне двух у прынцыпе ўзаемна незалежных працэсаў прывяло да таго, што іншага разу вельмі цяжка зразумець, што ёсць наступкам распаду, а што належыць да нашага пералому.

Што істотнага ў асноўнай ідэі і ў чым замыкаецца пералом, аб якім ідзе гаворка?

Асноўная ідэя — гэта супольнасць адказаў, пэўнае становішча адносна пытанняў, уважаных у даным перыядзе за асноўныя. Такіх пытанняў шмат і цяжка было б абмеркаваць усе. Мы абмяжуемся наступнымі чатырма, якія цяпер здаюцца найважнейшымі:

— якое месца займае чалавек у сусвеце?

— ці існуе прагрэс?

— што можа нам даць навука?

— наколькі вялікая чалавечая сіла або бяссільнасць?

Перш як прыступіць да абмеркавання сённяшніх адказаў на гэтыя пытанні, варта яшчэ прыгадаць важны факт: масы, таксама і масы інтэлігенцыі, дагэтуль знаходзяцца пад уплывам дзвюх асноўных ідэяў: сярэднявечнай і асветніцкай.

Сярэднявечча яшчэ ўсцяж жыве ў каталіцкіх краінах. Гаворка ідзе не толькі аб хрысціянстве, але таксама і аб іншых біблійных светапоглядах. Безумоўна, яго ўплыў на інтэлігенцыю слабейшы за ўплыў Асветніцтва, але не менш істотны.

Пад "Асветніцтвам" мы тут разумеем погляды і супольныя элементы такіх светапоглядаў, як ліберальна-агнастычны і марксісцка-ленінскі, што маюць свае вытокі ў "філасофіі" XVIII стагоддзя. Гэтая сітуацыя сёння аказвае вырашальны ўплыў на бальшыню інтэлігентаў у нашым культурным коле. Такім чынам, *істоту сучаснага крызісу становіць разрыў з асноўнай ідэяй Асветніцтва і, у меншай ступені, з сярэднявечнай ідэяй, якая яшчэ ўсцяж аказвае ўплыў на масы.*

## III

Якія адказы дае сярэднявечная ідэя на нашы чатыры пытанні?

Адносна месца чалавека ў сусвеце яе адказ рашуча антрапацэнтрычны. З пункту гледжання ранейшай навукі палажэнне ўяўлялася так: чалавек — валадар зямлі; Зямля ёсць цэнтрам свету; Сонца і планеты кружыняцца вакол яе; зоркі не што іншае, як рамкі гэтай зямной і, такім чынам, чалавечай сістэмы. Біялогія вучыць, што чалавек — істота адзіная ў сваім родзе, якая ўзвышаецца над усім іншым у свеце. Такім чынам, чалавек — цэнтр сусвету. Гэтая антрапалагічная канцэпцыя ўзмацняецца яшчэ і біблійнай верай: паводле яе свет быў створаны для чалавека, які не толькі яго цэнтр, але і адзіная мэта.






Сярэднявечны адказ на пытанне аб прагрэсе таксама станоўка негатыўны. Нягледзячы на велізарны аўтарытэт св. Аўгустына, першаадкрывальніка і радыкальнага прыхільніка эвалюцыі, сярэднявечны чалавек не верыць у касмічны прагрэс, і тым менш у грамадскі. Яго канцэпцыя свету і грамадства хутчэй статычная.

Адносна праблемы навукі Сярэднявечча займае памяркоўнае становішча. Яно верыць у магчымасць пазнання, прызнае вартасць навукі, але адрозніваe (ясна і востра пачаўшы ад св. Тамаша з Аквіну) веду ад веры. Вера, светапогляд не могуць быць даведзенымі.

Урэшце кажучы аб магчымасцях, адкрытых перад чалавекам, у Сярэднявеччы станоўча пераважае пачуццё бяссільнасці.

Падрахоўваючы: *асноўная ідэя Сярэднявечча абнімае антрапацэнтрычную канцэпцыю, статычнае разуменне свету, памяркоўны рацыяналізм і перакананне, што магчымасці чалавека абмежаваныя.*

## IV

Гэтую ідэю паступова, пачынаючы ад XVIII стагоддзя заступае новая ідэя, якую называюць "асветніцкай". Хаця адзін складнік сярэднявечнай ідэі быў прыняты і нават увыразнены, але чалавек навачасны адкінуў, адносна глыбока перапрацаваўшы, іншыя складнікі.

Прымаецца антрапацэнтрызм і яму надаецца радыкальны выгляд. Гэта, вядома, дзіўна, бо якраз у гэтым перыядзе навука дае ўсё болей пераконлівых аргументаў супраць меркавання, што чалавек займае адмысловае месца ў свеце. Калі б астраноміі і біялогіі не існавала, антрапацэнтрызм акурат цяпер адсвяткаваў бы найвялікшую перамогу як у філасафічнай думцы, так і ў вераваннях масаў.

Калі ж казаць аб трох іншых пытаннях, то ў Асветніцтва навідавоку станоўчы разрыў з Сярэднявеччам.

Такім чынам, найперш сцвярджаецца вера ў неабмежаваны прагрэс — што ёсць яшчэ адным гістарычным дзівам, паколькі найважнейшыя аргументы, якія б сведчылі аб ім, з'явіліся адно ў другой палавіне XIX стагоддзя.

Таксама вызнаецца, у адваротнасць ад Сярэднявечча, неабмежаваны рацыяналізм. Чалавек можа ўсё вывучыць і ўсё зразумець. Навука не знае межаў. Што ляжыць вонках яе галінаў, ёсць простым забабонам.

Урэшце пад уздзеяннем навукі і тэхнікі чалавек пачынае верыць у сваю неабмежаваную сілу. Маркс выдатна адлюстраваў гэтую веру, калі пісаў, што Праметэй, які выкраў у багоў агонь, ёсць самым высакародным святым у філасафічным календары. Такім чынам, *асноўная ідэя Асветніцтва абнімае крайні антрапацэнтрызм, веру ў прагрэс, крайні рацыяналізм і веру ў неабмежаваныя магчымасці чалавека.*

## V

Так у цэлым уяўляюцца гэныя дзве ідэі, што паўсталі ў мінуўшчыне і дагэтуль яшчэ аказваюць вялікі ўплыў на масы. Тым не менш — і гэта найважнейшае цверджанне гэтых разважанняў — гаворка ідзе аб вераваннях, што належаць да сівой мінуўшчыны: як сярэднявечная, так і асветніцкая ідэя не адпавядаюць сучаснай духоўнай сітуацыі і як такія мусяць быць уважаныя за перажытыя.

Пачнём ад месца чалавека ў сусвеце: якой уяўляецца сучасная духоўная сітуацыя ў гэтым сэнсе? Катастрафічнай для антрапацэнтрызму, супольнага для абедзвюх даўнейшых асноўных ідэяў. Астраномія адназначна сцвердзіла, што Зямля не ёсць цэнтрам Сонечнай сістэмы, што гэтая сістэма ёсць не ўсёй сапраўднасцю, але нязначным фрагментам яе, што яна не знаходзіцца нават у цэнтры Млечнага шляху, што вонках гэтага Млечнага шляху існуе шмат (магчыма, мільярды) іншых падобных туманнасцяў, што адлегласці ў сусвеце вымяраюцца мільёнамі парсекаў (парсек — гэта больш як 30 800 мільярдаў кіламетраў), а час — мільярдамі гадоў. Думка, што істота, якая жыве цягам часцінкі касмічнай секунды на паверхні Зямлі, гэтага неймаверна малога фрагмента свету, ёсць яго цэнтрам — гэтая думка сёння падаецца нам цалкам беспадстаўнай.

Заразом сучасная біялогія і псіхалогія нанеслі смяротны ўдар міфу аб нібыта выключных уласцівасцях чалавека, аб яго ўзвышэнні над прыродай. Яны выявілі, што чалавек, як і іншыя жывёлы, ёсць папросту вынікам эвалюцыйнага развіцця жыцця на Зямлі.

Праўда, гаворка можа весціся аб так званым "антрапічным прынцыпе", згодна з якім чалавек з'яўляецца мэтай усяго касмічнага працэсу. За гэты прынцып выказваліся таксама і некаторыя вядомыя астраномы. Але, наколькі можна зарыентавацца, няма падставы ўважаць гэты "прынцып" за вынік строгіх навук. Супраць гэтага прамаўляюць чатыры меркаванні: 1) антрапічны прынцып належыць да касмалогіі, якая аперуе на памежжы навук і метафізічных спекуляцый; 2) адносна яго няма згоды паміж спецыялістамі; 3) існуе падазрон, што тут мы маем да чынення з яшчэ адным непамысным пранікненнем спецыялістаў у чужую ім галіну. Гісторыя навук поўная такога роду пранікненняў, іншага разу кампраметуючых, хоць і ажыццёўленых перадавымі навукоўцамі — досыць прыгадаць філасафаванне Джынса, Эдынгтона, Планка і Гайзэнберга; 4) уплыў светапоглядных матываў падаецца відавочным. Згаданы "прынцып" не ёсць, такім чынам, спаважным аргументам супраць так добра ўгрунтаванага цверджання, што чалавек у свеце ёсць фрагментам без значэння. А тое, што і абароннікі перажытых светапоглядаў будуць хапацца гэтага "прынцыпу" як тапелец саломінкі, можна было

ЗНО

Відарыс

У гэтым выпуску «ЗНО» — графіка Адама ГЛОБУСА.










## МЕТАФАРА І СІМВАЛ ЯК СТВАРАЛЬНІКІ "НОВАГА" МІФА*

### Спроба схематызацыі

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 8–9)*

Але, як сцвярджае Іван Адоеўскі, "рацыяналізм падвёў нас да брамы ісціны, аднак яму не наканавана адчыніць яе". Homo sapiens становіцца "homo technicus" (выраз латышскага вучонага Роберта Мукса).

Прырода міфа змяняецца, становіцца прынцыпова іншай. Хасэ Артэга-і-Гасэт: "Фізічныя законы нашай планетнай сістэмы не распаўсюджваюцца на міфічныя светы. Паглынанне міфам падзей рэальнага свету складваецца з таго, што міф робіць яго гістарычна і фізічна немагчымымі". Гэтае вызначэнне цалкам прыдатнае як характарыстыка "старога" міфа. "Новы" міф, нарадзіўшыся, пераўтварае свет, робіць законы міфа законамі свету. Рознымі могуць быць дэфініцыі "новага" міфа, яго паходжання і вызначальных рысаў. Р.Мукс лічыць, што "змянілася толькі форма акружэння: месца свавольнай прыроды цяпер займае тэхналогія. (...) Як бы цяжка нам ні было ўспрыняць, мы — не стваральнікі тэхналагічнай цывілізацыі".

Такімі чынам, прырода саступае месца тэхналогіі. Пачынаецца працэс *разбурэння ўяўленняў*. Прыродны вобраз замяняецца вобразам тэхнічным і г.д. Аднак прыродны вобраз не перастае існаваць, ён проста становіцца другасным для міфа, які, у сваю чаргу, становіцца *рацыянальным*. Суіснуюць як бы дзве канструкцыі ўтварэння міфаў. Уласна кажучы, гэта — два міфы.

а. ВОБРАЗ → МЕТАФАРА → СІМВАЛ → "СТАРЫ" МІФ → КАЗКА

У аснове — стасункі чалавека і прыроды. "Стары" міф, у які не вераць, становіцца казкай (у французскага пісьменніка Рамэна Гары сустракаецца ў рамане "Абяцанне на досвітку" выраз "казачны міф". Магчыма, гэты выраз з часам станецца тэрмінам.

б. ВОБРАЗ → СІМВАЛ → "НОВЫ" МІФ → ЧАСОВАЯ АКСІЁМА

У гэтым выпадку метафара як бы знікае, бо вобраз-знак імгненна становіцца сімвалам у яго канвенцыяльным увасабленні. "Новы" міф не можа стаць казкай, бо ён стварае свет і застаецца аксіёмай да таго часу, пакуль не створацца ўмовы для нараджэння "навейшага" міфа.

Адбываецца размежаванне паміж метафарай як носьбітам Культуры і сімвалам (які ператвараецца ў Знак) як носьбітам Цывілізацыі.

вобраз ↗ метафара — "стары" міф (дзе метафара — гэта і яе пашырэнне да агульназначнасці)

вобраз ↘ сімвал — "новы" міф (дзе сімвал — толькі знак прысутнасці)

У абодвух міфах назіраецца тэндэнцыя да дэгуманізацыі мастацтва (тэрмін Артэгі-і-Гасэта). Толькі для "старога" паэзія — гэта вышэйшая алгебра метафар прыродных, а для "новага" — геаметрыя сімвалаў-знакаў. Чалавек жа выцясняецца з абодвух. "Новы" міф больш жорсткі да чалавечых амбіцый, бо не пакідае яму ніякіх ілюзій адносна актыўнага ўдзелу ў ператварэнні свету. У М.Гарэцкага (які лічыцца апосталам беларускага менталітэту) таксама назіраецца барацьба двух міфаў, дзе "новы" знішчае "стары". Гэта можна прасачыць нават па выкарыстанні літаратурных жанраў у "Скарбах жыцця": побач суіснуюць заплачка (жанр БНТ) і мроі, народжаныя цывілізацыяй; алюзіі са "Словам пра паход Ігаравы", і тэхнакратычная антыўтопія; матывы Апакаліпсісу і грэцкіх хаджэнняў. Гэты твор — суцэльная сімволіка сну, якая, на думку Юнга, паказвае на замену натуральнай прыроды штучнай. Барацьба светаў — барацьба міфаў.

Аднак куды ж дзецца чалавеку? Магчыма, творчая рэвалюцыя, якую чакае Захад, вызваліць месца і для чалавека? Ці не правазвесцем з'яўляюцца словы Р.Дэбрэя: "У XIV стагоддзі людзі слухалі або чыталі вялікія творы, якія не мелі аўтара, а напрыканцы XX захапляюцца вялікімі аўтарамі, якія не маюць твораў". Чалавеку, па ўсім відаць, даецца шчаслівы шанц.

---

* Працы Р.Мукса і Р.Дэбрэя, выкарыстаныя аўтарам, цытуюцца па публікацыях "ЗНО": Роберт Мукс. Ці мае тэхналогія душу? "Культура", № 35, 31 жніўня 1994г. Рэжы Дэбрэй. Тры ўзросты зроку. "Культура", № 13, 29 сакавіка 1995г.

## ПАЭТЫЧНЫ ГАБЕЛЕН

Прапаную стварыць беларускі паэтычны габелен, у які кожны можа ўваткаць сваю непаўторную нітку-верш.

Вам трэба адабраць да дзесяці сваіх лепшых вершаў, напісаных у 1980 — 1995 гг. (не мае значэння, друкаваліся яны ці не), і даслаць на адрас "знітавальніка габелена". Просьба да родных, сяброў і аматараў творчасці ўжо спачыўшых паэтаў — зрабіце тое самае. Тэрмін адпраўкі матэрыялаў — пачатак 1996 года. Безумоўна, аўтаматычнага ўключэння вершаў у зборнік не будзе. Што да фінансавання праекта, то яно прадугледжваецца з недзяржаўных сродкаў. Выданне безганарарнае. Кніга выйдзе накладам 1500 асобнікаў. Яна будзе мець паменшаны, "сувенірны", фармат і цвёрдую вокладку. Аздобяць кнігу рэпрадукцыі мастака Юрыя Хілько.

Калі ласка, дасылайце вершы на адрас укладальніка зборніка: 225320, Беларусь, Брэсцкая вобл., г.Баранавічы, вул. Першукевіча, д. 40, кв. 1, Бокачу Алесю Уладзіміравічу.

*Рада "ЗНО": Валянцін Акудовіч (адказны за выпуск), Алесь Разанаў, Ігар Бабкоў, Юрась Барысевіч, Валерка Булгакаў, Сяргей Мінскевіч.*

*Тэксты друкуюцца паводле аўтарскага правапісу.*